Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапісь, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9..
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 14 Студня 1932 г. № 2 (27)



## Водгукі сьпісу.

З цэлага раду мейсцаў нашага краю даходзяць да нас весткі і скаргі на няправільнае правядзеньне сьпісу насяленьня 9 сьнежня сьпісавымі „камісарамі“-перапішчыкамі. Мы зьбіраем і рэгіструем усе атрымліваныя весткі і факты. Таму—зьвяртаемся да нашых чытачоў з заклікам—пісаць да нас дакладна аб усіх ведамых ім, сьцверджаных верыгодна сьведкамі, фактах усялякіх надужыцьцяў. Зразумела, што імёны карэспандэнтаў будуць захаваны рэдакцыяй у поўнай тайне.

Нашы карэспандэнты пішуць, што шмат дзе сьпіс адбываўся такім залішне ўжо „упрошчаным“ спосабам. Замест таго, каб пісаць тут-жа пры гаспадарох у хатах адказы іх на пытаньні аб бацькаўскай мове, перапішчыкі казалі так: „ну, на пытаньне аб мове няма што навет адказываць: ведама-ж, усе вы—беларусы, дык і мова ваша—беларуская. Так агулам і запішам „пасьля“... А „пасьля“, як можна думаць, пісалі ўсіх гэтых „ведамых беларусаў“—палякамі... Таксама „польскую мову“ пісалі дзецям, якія прымушаны хадзіць вучыцца ў польскія школы, бо беларускіх—няма.

А вось вестка аб тым, як прайшла перапіс, зьмешчаная ў польскай прэсе. Яна поўнасьцю пацьвярджае весткі нашых карэспандэнтаў.

У № 2 эндэцкай газэты „Дзен. Віл.“ надрукавана карэспандэнцыя з Леонполя, якая цешыць рэдакцыю тым, што „апошняя перапіс насяленьня зрабіла запраўды... мілую неспадзяванку“: леонпольская гміна, „лічыўшаяся няслушна найбольш зьбеларушчанай (?), „аказалася — у выніку сьпісу — у большасьці 72 прац.—польскай“... І гэта—ня гледзячы на тое, што — як прызнае сам карэспандэнт—„большасьць гміны складае праваслаўнае насяленьне“...

Такім чынам аказалася ізноў, як і ў перапісі 1919 г., што нібы-то на нашых „крэсах“ масова існуюць на апытальных лістох няіснуючыя ў прыродзе нейкія „праваслаўныя палякі“, пры гэтым палякі ня ў сэньсе дзяржаўнай прыналежнасьці, бо-ж гэтага пытаньня ў перапісных анкетах ня было, — але ў значэньні культурна-нацыянальным, якое азначалася адказам на пытаньне аб „бацькаўскай мове“.

Як ведама, у сваей забойчай крытыцы перапісі 1919 г. ведамы польскі публіцыст і вучоны дасьледчык М. Сроковскі якраз у гэтых, „сьцверджаных“ масова на „крэсах“ недарэчных „праваслаўных палякох“ бачыў найбольш пераконваючы, незбіты доказ бясспрэчнага сфальшаваньня дый агульнай навуковай нягоднасьці перапісі 1919 г...

Ці-ж запраўды, як сьцвярджае шчыры карэспандэнт эндэцкага „Дзен. Віл.“, прыткія не па розуму паны „камісары“, пранікнуўшыся эндэцкім „ура-патрыятызмам“, ізноў масова натварылі на нашых „крэсах“ гэтых, ужо здабыўшых анэкдотычную славу на ўсю Эўропу, „праваслаўных палякоў“, пазбавіўшы і на гэты раз паважнага навуковага значэньня вялізарнай дзяржаўнай важнасьці акт агульнай перапісі насяленьня?!

Цікаўна было-б высьветліць усю гэтую справу—як з боку праўнага, таксама і з боку практычнага: як панараць рабіўшых гэтыя надужыцьці паноў камісараў, а галоўнае — як паправіць зробленыя імі фальшы ў перапісі?

## Японска - кітайская вайна.

Яшчэ нядаўна японскі прэм'ер заявіў, што ўзяцьце Цінг-Чжоў будзе апошняй ваеннай апэрацыяй японскіх войскаў. Але вось Цінг-Чжоў узяты, і ваенныя апэрацыі разьвіваюцца далей. Адно па адным займаюцца японцамі месты: Суй-Чан, І-Чу, Чын-Сі і т. д. А савецкая прэса публікуе навет, як сэнсацыю, яўна сфабрыкаваную „рэвэляцыю“: „тайны даклад японскаму імпэратару“ з плянам ваеннага захвату ня толькі ўсяго Кітаю, Манголіі, Тыбэту і Сыбіры, але ўсей ангельскай і францускай Індыі... Мэта гэтай „рэвэляцыі“—ясная: з аднаго боку — нацкаваць на Японію Англію і Францыю, а з другога — падрыхтаваць псыхолёгічна народ да магчымасьці вайны СССР з Японіяй.

Амэрыканская нота Японіі, напамінаючая ёй аб падпісаных ёю трактатах, гарантуючых нятыкальнасьць тэрыторыі Кітаю, не падтрымана ані Англіяй, ані Францыяй, ані Італіяй. Англія заявіла, што верыць (!) заяве Японіі, што тая „ня зьбіраецца акупаваць Манчжурыю“... Францыя заявіла, што можа рабіць той ці іншы крок толькі праз Раду Лігі Нацыяў, да якой Амэрыка не належыць. На падобным становішчы станула Італія. — Дык ня дзіва, што Японія ня вельмі зьлякалася амэрыканскай ноты.

Да якой меры ўсё гэта дадае духу Японіі, відаць з таго, што японскі ўрад, як падае ангельскае агенцтва, пастанавіў—прыняць рашучыя меры проці байкоту японскіх тавараў у Кітаі, які прычыняе японскім прамысловцам вялізарныя страты. Японскі ўрад мае—ня толькі выслаць у кітайскія воды карацельныя атрады з японскіх маракоў, але і зачыніць блёкадай галоўныя порты Кітаю...

# З малых цэглін—вялікі гмах.

Зіма — асабліва другая яе палавіна — вельмі цяжкая для беларускае вёскі, а йшчэ балей—для кожнага, хто, робячы сваю штодзенную работу, імкнецца думкай да нечага іншага, на „шырэйшы сьвет“. Гэты „шырэйшы сьвет“ адрэзаны непраходнымі й непраезднымі дарогамі,—а нястача найпатрэбнейшага, а то й папросту голад нападзеньні пазбаўляе селяніна магчымасьці навет колькі злотых ахвяраваць на родную газэту, на кніжку беларускую. Рад-бы чалавек хоць думкамі абмяняцца з сьвятлейшымі суседзямі, ды незаўсёды лоўка йсьці да іх у хату, а так сустрэцца — узімку няма дзе. І вось тады ўстае перад ім спакушэньне: шынок, па моднаму—„рэстаран“, якіх так многа напладзілася цяпер па нашых мястэчках і вёсках. А папаў туды—дык апошні грош, прызначаны на нешта найпатрабнейшае, пакінеш тамака не агледзіўшыся...

Праўда, ёсьць яшчэ дзе-ня-дзе польскія „сьветліцы“, ёсьць і бібліотэчкі ў іх дый радыё. Але-ж усё тамака — чужое: чужыя людзі, ніводнага роднага слова, ніводнае беларускае кніжкі, ані беларускае газэты, — а і радыё (па-за тангамі і фокстротамі) мае на мэце несьці асьвету польскаму насяленьню, аб беларускім не клапоцячыся... Дык і ў „сьветліцы“ беларус — ня йдзе.

А тымчасам шмат для каго чытаньне газэт і кніжак, веданьне, што дзеецца ў беларускім грамадзянстве (—хоць і невясёлыя тут „падзеі“!...), што дзеецца на сьвеце наагул,—сталася няўхільнай патрэбай. Патрэба гэтая шырака разьвілася па ўсей Заходняй Беларусі ў часе вялікага грамадаўскага ўздыму,—але-ж пасьля тое, што меля на мэце здаваляць гэту патрэбу, неяк разьбілася, заснула, сьехала. Спынілася праца гурткоў Т. Б. Ш.; на дзьвярох бібліатэк-чытальняў панавешвалі замкоў. Навет нейкае грамадзкае пачынаньне, нейкая зборка дзеля арганізацыі беларускага хору або драматычнае дружыны, сталася рэдкім выпадкам. Вёска наша—разьбітая, прыглушаная; людзі, якія яшчэ ўчора йшлі аднэй грамадой, пад уплывам розных цёмных палітычных махераў пачалі ўглядаца адны на адных з няверай, з нейкай падазронасьцяй, ці навет страхам...

У такім стане расьцярушанасьці навет у маманты, калі йдзе аб самыя важныя справы вёскі, грамады, — людзі ня ўмеюць згаварыцца, ня ўмеюць узяцца разам за супольную справу. Найлепшы доказ гэтага далі — выбары... З гэтым трэба ўжо канчаць. Вёска мусіць тварыць у сябе такія пляцоўкі, такія свае мясцовыя цэнтры, дзе людзі маглі б сустракацца, пачытаць кніжку ці газэту беларускую, абмяняцца думкамі аб грамадзкіх справах ды згаварыцца між сабой — ці то ў якой-колечы справе матэрыяльнага характару, аб якім паляпшэньні ў гміннай гаспадарцы ці ў гаспадарцы сваей вёскі, аб школе, аб асьветнай працы наагул.

Такімі пляцоўкамі могуць быць у нас—вясковыя бібліотэчкі-чытальні, якія з гэтай мэтай і пачаў ладзіць па вёсках і мястэчках Цэнтрасаюз. Дзе знойдзецца адзін або некалькі ахвочых людзей, якія маглі-бы даць дзеля гэтае справы сваю хату,—няхай зьвернуцца да Цэнтрасаюзу (Вільня, Вострабрамская 9) і згаворацца з ім у справе льготнае дастаўкі камплекту кніжак ды выпаўненьня патрэбных фармальнасьцяў перад адміністрацыяй, і справа лёгка можа быць наладжана.

А закладзіны бібліотэчкі-чытальні шмат дзе могуць стацца зваротным мамэнтам у жыцьці вёскі. Яна будзе тэй аддушынай, куды пойдуць лепшыя людзі вёскі, а іх прыклад патроху будзе адцягваць і другіх вяскоўцаў ад п'янства, „рэстаранаў“, самагону. А калі праца бібліотэкі-чытальні пойдзе добра, дык ад часу да часу ў памяшканьні яе можа адбыцца нейкая лекцыя, нейкая гутарка аб нашых супольных справах і патрэбах. Дзеля гэтага Цэнтрасаюз, пэўне ж, не адмовіць калі-не-калі прыслаць свайго лектара, — абы мясцовыя людзі прыгатавалі ўсё патрэбнае. З такога згуртаваньня можа вырасьці і спажывецкі кооператыў, і нейкая малачарская суполка ці нешта іншае, карыснае для ўсіх.

Дык пачынайце, грамадзяне, з гэтае малое справы — з ладжаньня беларускае бібліотэчкі-чытальні ў вёсцы ці мястэчку, а пры добрай ахвоце і пэўнай ахвярнасьці вашай з яе вырасьце і справа вялікшая. З малых цэглін вялікі гмах складаецца. Пачнецце-ж з такіх цэглінаў будаваць і наш Беларускі Дом.

К. Фалькевіч.

# Немцы больш ня плацяць!

### Нямеччына афіцыяльна адмовілася плаціць адшкадаваньні.

Усе ведалі, бо-ж усьцяж адкрыта ды голасна ўсе нямецкія палітычныя партыі і адказныя дзяржаўнікі заяўлялі „усім — усім —усім“, што Нямеччына плаціць больш адшкадаваньняў ня можа і ня хоча. Усе спадзяваліся, што набліжаецца няўхільна час, калі гэтая заява будзе зроблена ня толькі зусім афіцыяльна, але і па зусім выразнаму адрасу. А ўсё-ж, калі гэта здарылася, уражэньне ў палітычным сьвеце было запраўды — „выбуховае“... І вось—напярэдадні Лёзанскай конфэрэнцыі, калі французскі ўрад рыхтуе спэцыяльнае паразуменьне з англійскім у справе адшкадаваньняў, — нямецкі прэм'ер Брюнінг заявіў англійскаму паслу — да ведама Англіі, што Нямеччына больш плаціць ніякіх адшкадаваньняў — ні цяпер, ні пасьля — ня будзе. — З тым яе дэлегаты і паедуць на конфэрэнцыю...

### Настрой у Францыі.

Гэтая заява выклікала ў Францыі, як пішуць газэты, нячуваны выбух абурэньня. Француская прэса трэбуе (—на падставе Вэрсальскага Трактату) амальня новай акупацыі Рэйну!.. Заява нямецкага прэм'ера зроблена спрытна ў такі мамэнт, калі ў Францыі фактычна распачаўся ўрадавы крызіс — з прычыны сьмерці міністра вайны Мажыно і адстаўкі Брыяна... Такім чынам можна прадбачыць, што конфэрэнцыя ў Лёзаньне не адбудзецца ў вызначаны час. І запраўды ўжо ёсьць з боку Англіі прапозыцыя аб тым, каб адкласьці яе на 25 студня.

Ясна, пад якім, як кажуць, „знакам“ пойдзе ў Францыі тварэньне новага ўраду. Францыя бяссумліўна захоча спрабаваць нанова тактыку „сільнай рукі“ адносна да Нямеччыны. Ролю новага Пуанкарэ мае цяпер адыграць прэм. Лязаль. Ясна, што міратворцу Брыяну няма месца ў такім урадзе. Дый яго ўжо згары ня думалі дэлегаваць у Лёзанну, як паўнамоцнага прадстаўніка Францыі. Лязаль, праўда, хоча (?) быццам утрымаць Брыяна ў сваім новым габінэце, але ўжо толькі — „без портфэлю“... Новы габінэт мае быць перасунены значна ўправа... Францыя выразна рыхтуецца да „бою“ з Нямеччынай за адшкадаваньні.

### Адзіны фронт у Нямеччыне.

У Нямеччыне так сама ідзе характэрная падрыхтоўка адзінага фронту — проці спадзяванага націску звонку.

Рашучая заява Брюнінга зьявілася адначасна вельмі лоўкім манэўрам унутранай палітыкі: яна ўмацавала ўрад, даўшы яму падтрыманьне найшырэйшых кругоў справа і зьлева. Гэтым прэм'ер адразу спыніў усю небясьпеку захвату ўлады з боку Гітлера, з якім — наадварот — адразу ўвайшоў у паразуменьне.

Справа — ў тым, што дзеля стварэньня найбольш поўнай аднадушнасьці ў Нямеччыне — напярэдадні рашучага „бою“,—трэба на гэты час адлажыць усялякія, распаляючыя палітычную барацьбу, выбары, а перад усім утрымаць на чале дзяржавы найбольш папулярную ў масах асобу сучаснага прэзыдэнта Гіндэнбурга. Але, як на грэх, у найбліжэйшым часе канчаюцца яго паўнамоцтвы, і трэба рабіць выбары новага прэзыдэнта. Дык вось урад падаў думку — шляхам спэцыяльнага закону прадоўжыць прэзыдэнцтва Гіндэнбурга на далейшы пэрыяд. Гіндэнбург заявіў, што застацца надалей згодзіцца толькі бяз выбараў, якія лічыць цяпер шкоднымі. Згодна з Конституцыяй, такі закон павінен сабраць у парляманьце большасьць не звычайную, але — 2/3 галасоў. Дык бяз Гітлераўцаў і нацыяналістаў закон прайсьці ня можа. На камуністаў пэўне-ж зусім нельга спадзявацца. Соцыял-дэмакраты далі сваю згоду. Але нямецкая „правіца“ — за галасы на карысьць яе-ж прэзыдэнта—пастанавіла сарваць ад Брюнінга чым больш рознага роду ўступак. Гітлер усьцяж вядзе перагаворы з Брюнінгам, а гэты — праз Гітлера—з нацыяналістамі. Торг ідзе страшэнны.

Такім чынам у распачынаючымся „генэральным баі“ абедзьве галоўныя арміі—француская і нямецкая — пачалі баявую „концэнтрацыю“ ўсіх сваіх сілаў.

### Становішча Англіі і Амэрыкі.

Англія на заяву Брюнінга зарэагавала значна больш спакойна. У спэцыяльным дакладзе яе экспэрта — дэлегата на конфэрэнцыю — на выпадак адмовы Нямеччыны ад „пляну Юнга“ прадбачана апэляцыя ў Міжнародавы Трыбунал у Гаазе.

Што датычыць Амэрыкі, дык там глядзяць на „баявую“ заяву Нямецкага прэм'ера яшчэ больш „рэчова“: бачаць у ёй толькі вельмі спрытны „ход“ — у мэтах вытаргаваць для Намеччыны найкарысьнейшыя варункі ў нейкім новым, без параўнаньня лягчэйшым пляне оплаты адшкадаваньняў...Дый запраўды— ўжо напярэдадні заявы Брюнінга —ў францускай прэсе зьявіліся розныя прапазыцыі ды праекты новага „пляну оплатаў адшкадаваньняў“ папросту „дабрадзейныя“ для Нямеччыны, —каб хаця што-небудзь атрымаць з таго, што ўсё больш стаецца безнадзейным ..

Можа Амэрыканскі пагляд і адпавядае бліжэй за ўсё запраўднасьці...

# Жыцьцё Польшчы.

### ПРЫГАВОР У СПРАВЕ ЦЭНТРАЛЕВУ.

**Справа б. паслоў і сэнатараў Цэнтралеву — „берасьцейскіх вязьняў“, абвінавачаных у змове проці дзяржаўнага ладу Польшчы, закончылася прыгаворам, якім Дюбуа, Мастэк, Цёлкош і Прагер засуджаны на 3 гады кожны, Лібэрман, Керпік і Путэк—на $2\frac{1}{2}$ г., Багіньскі і Барліцкі—на 2 г., Вітос на $1\frac{1}{2}$ г. Савіцкі — апраўданы**

### Узнаўленьне працы Сойму.

У панядзелак, 11 студня, ўзнавіла працу бюджэтная камісія Сойму,

12-га студня адбылася першае пасьля сьвяточнага перарыву паседжаньне Сойму.

### Выясьненьне аб судовых справаздачах.

У зьвязку з меўшымі мейсца конфіскатамі судовых справаздачаў — пераважна з працэсу берасьцейскіх вязьняў — Найвышэйшы Суд высьветліў, што справаздача аб яўнай судовай расправе ня можа падлягаць конфіскаце, дый што за надрукаваньне такой справаздачы ніхто ня можа быць пацягнены да судовай адказнасьці.

### Гандлёвы баляис.

Гандлёвы баляно Польшчы за мінулы год быў дадатны: вываз на 412,155 тыс. зл. перавысіў увоз. Трэба адзначыць толькі, што такі карысны баляно—рэзультат ня гэтулькі павялічэньня вывазу, колькі зьменшэньня ўвозу—на грунце агульнага зьбядненьня краю.

### Касаваньне паветаў,

Рада Міністраў пастанавіла ў мэтах ашчаднасьці, апроч скасаваных ужо 7 паветаў, зьліквідаваць яшчэ 13 — у ваяводзтвах: Люблінскім, Лодзкім, Львоўскім, Станіславаўскім і Пазнанскім.

### Насяленьне сталіцы.

Паводле падрахункаў даных апошняга сьпісу, насяленьне Варшавы налічвае 1 мільён 175 тыс. жыхароў. За 10 гадоў насяленьне сталіцы Польшчы павялічылася на 240,000, ці на 28 проц.



**Перачытаўшы газэту— перадай другому.**

# З украінскага жыцьця.

### Зьезд УНДО.

У канцы мін. году адбыўся чарговы зьезд Аб'яднаньня Украінскіх Дэмократычных Організацыяў (УНДО). Але дагэтуль пастановы зьезду не апублікаваны. Польская прэса тлумачыць гэта крапчэючым быццам паміж рознымі групамі УНДО расколам на грунце адносінаў да Польшчы. Адны сябры УНДО стаяць на позыцыі непрызнаваньня польскае дзяржаўнасьці, другія ўсё мацней высоўваюць канешнасьць рэчовага паразуменьня з польскім грамадзянствам, рашуча адкідаючы „баявую тактыку“ першых. Цяжкасьць узгодніць гэтыя розныя пагляды і затрымлівае апублікаваньне рэзолюцыяў зьезду.

# З літоўскага жыцьця.

### Лятуценьні аб Вільні.

У Літве грамадзянства ня можа пагадзіцца, што Вільня, адвечная сталіца Беларуска-Літоўскага Гаспадарства, апынулася пад уладай Польшчы. У Літве існуе і разьвіваецца „Саюз Вызваленьня Вільні“, з ініцыятывы якога, як інформуе „Słowo“, утвораны цяпер **жалезны фундуш Вільні.** Дзеля збору грошы на гэты фундуш выпушчана 500 тысяч „**віленскіх пашпартоў**“ і тры мільёны марак дзеля наклейваньня іх што-месяц у гэных „пашпартох“, як сталая складка. Камітэт фундушу просіць кожнага грамадзяніна вызначыць наперад, які процант ад сваіх заробкаў ён будзе плаціць.

### Новы разгром літоўскае опозыцыі.

У Клайпэдзе адбыўся зьезд прадстаўнікоў літоўскіх опозыцыйных партыяў: людоўцаў і хрысьц. дэмакратаў. На зьезьдзе быццам пастаноўлена распачаць актыўную барацьбу проці дыктатуры дый арганізаваць—„марш на Ксўну“. Асабліва актыўна настроены людоўцы, якія даводзілі, што дыктатура няўхільна давядзе да камунізму. Рэзультаты зьезду былі самыя сумныя: пасьля павароту з Клайпэды блізу ўсе ўчасьнікі зьезду—у лічбе 200—былі арыштаваны паліцыяй. Пэўне-ж, на зьезьдзе опозыцыі былі й „дэлегаты“ ўраду...

# З усяго сьвету.

### Студнёвая сэсія рады Лігі Нацыяў.

У студні рада Лігі Нацыяў мае адбыць 66 сэсію. Сэсія мела адбыцца пад старшынствам Брыяна. Але ці паедзе ён, як галоўны дэлегат Францыі, у Жэнэву (чаго быццам хоча Лязаль), няведама,

Побач з Радай мае працаваць у студні ў Жэнэве цэлы рад важных камісіяў і камітэтаў. Найважнейшы з іх—камітэт для разгляду праекту Літвінава — аб трактаце аб ненападаньні.

Камітэт у справе пан-Эўропы зьбярэцца ў лютым.

Большасьць камісіяў мае працаваць да распачацьця працы конфэрэнцыі ў справе разбраеньня, калі тая ня будзе адложана на восень. Сама-ж Рада займецца ў першую чаргу справай кітайска-японскага „канфлікту“, ці прасьцей: вайны—і іншымі бягучымі справамі.

### Міжнародавая конфэрэнцыя прэсы.

11 студня ў Копэнгазе (Данія) распачалася міжнародавая конфэрэнцыя кіраўнікоў афіцыяльных прэсавых агенцтваў. Мэта конфэрэнцыі — вельмі добрая і важная: пляновая барацьба проці фальшывых інфармацыяў, якія могуць прычыніцца да нарушэньня міру і добрых адносінаў між дзяржавамі. Конфэрэнцыя, арганізаваная Лігай Нацыяў— напярэдадні конфэрэнцыі ў справе агульнага разбраеньня, мае арганізаваць праз прэсу пляновую прапаганду за разбраеньне.

### Бюджэт Францыі.

Бюджэт Францыі на 1931 - 1932 г. прадбачыць даходаў 50.643 мільён франк., а выдаткаў 50.640 міл. фр. Такім чынам — бюджэтная надвышка прадбачыцца ўсяго на

каля 3 мільён. франк. Але гэта тады, калі-б немцы заплацілі 2 мільярды фр. У лік адшкадаваньняў. Калі-ж мараторыум адбярэ ад бюджэту гэтыя 2 мільярды, дык у бюджэце замест надвышкі будзе недахоп.

### Ваенныя выдаткі Нямеччыны.

Французская прэса ўсьцяж раскрывае велізарныя ваенныя выдаткі Нямеччыны, якая ўсьцяж жаліцца на сваю ўбогасьць ды крызіс. У сувязі з дакладам сэнатара Экарда ў вайсковай камісіі сэнату, прэса публікуе новыя сэнсацыйныя лічбы ваеннага бюджэту Нямеччыны. З гэтых лічбаў вынікае, што гэты ваенны бюджэт Нямеччыны дайшоў да 10 мільярдаў франкаў, ці ўдвая перавышае ўвесь дзяржаўны бюджэт Польшчы...

### Трактат аб узаемным ненападаньні між СССР і Румыніяй.

У сувязі з падпісаным ужо прадстаўнікамі Францыі і СССР трактатам аб узаемным ненападаньні і роўналежна з нанова распачатымі ўжо і пасьпешна пасоўваючыміся наперад перагаворамі паміж Масквой і Варшавай аб заключэньні падобнага-ж трактату, —распачаліся ўрэшце ў апошнія дні такія-ж перагаворы паміж прадстаўнікамі румынскага і маскоўскага ўраду — ў Рызе.

Дагэтуль палітычныя адносіны паміж Румыніяй і СССР „рэгуляваў“ толькі адзін агульны процi-ваенны трактат Кэльлёга („Пратакол Літвінава“). Галоўнай перашкодай да поўнага ўнорманаваньня адносінаў між абедзьвюма дзяржавамі зьяўляецца, як ведама, справа Бэсарабіі, захвату якой Румыніяй не прызнае радавы ўрад. Таму ўсе высілкі абедзьвюх дыплёматыяў скіраваны на тое, каб вышукаць такую „формулу“, якая-б—і казала і не казала аб прызнаньні Саветамі нятыкальнасьці існуючых граніцаў Румыніі. Румынскі ўрад адмовіўся ўжо ад дамаганьня, каб у трактаце была выразна названа Румынія, але згадзіўся на агульнейшую формулу, гарантуючую узаемную сувэрэннасьць над дзяржаўнай тэрыторыяй абедзьвюх старонаў.

У савецка-румынскіх перагаворах, распачатых пад націскам Францыі, польская дыплёматыя йграе выдатную ролю пасярэдніка — гэтулькі ўплывовага, што перагаворы румынскі ўрад вядзе ў цесным контакце з польскай дыплёматыяй. Румынскі міністар замежн. спраў навет асабіста прыехаў гэтымі днямі ў Варшаву, каб бліжэй наладзіць поўнае паразуменьне ў гэтай асабліва важнай для абедзьвюх саюзьніцаў справе.

### Польскі працэс у Латвіі.

Судовая ўлада канчальна пастанавіла зачыніць Саюз Палякоў у Латвіі—„за процідзяржаўную дзеяльнасьць“.

### Расправа з партыяй індускіх незалежнікаў.

Партыя індускіх незалежнікаў, абвешчаная „нелегальнай“, разгромлена англічанамі блізу цалком, прынамся разгромлена яе кіраўніцтва. Блізу ўсе сябры ўсе - Індыйскага Конгрэсу, на чале з Гандi, — арыштаваны. Аднак — байкот англійскіх уладаў і тавараў ня спыняецца. Шмат дзе ўсьцяж ідуць крывавыя сутычкі з паліцыяй. На чарзе дня — паасобныя замахі на англійскіх ваенных і цывільных урадоўцаў. Гандi з турмы зьвярнуўся з пісьмом да віцэ-караля, завяраючы яго, што гатоў кожную хвіліну пачаць перагаворы дый зрабіць новую спробу спыніць проціанглійскі рух, бо-ж „яго сэрца — нязьменна недаступна для ненавісьці“. Але віцэ-кароль шукае іншых шляхоў. — Разграміўшы „партыю конгрэсоўцаў“ („Гандыстаў“), ён прабуе стварыць коаліцыю з усіх іншых партыяў і групаў Індыі, каб, апіраючыся на ёй — без учасьця найгалаўнейшай партыі краю — прадаўжаць працу „конфэрэнцыі круглага стала“. Дык Гандi пакуль што — не патрэбны.

### Замах на мікадо.

У Токіо зроблены замах на мікадо (імпэратара). Замахоўца — карэйскі рэвалюцыянэр-незалежнік, высланы ў Токіо рэвалюцыйным урадам захопленае японцамі Карэі, які створаны карэйскімі эмігрантамі і мае сядзібу у „кітайскім Лёндане“—у Шанхаі.

Характэрна, што гэта ўжо чацьверты замах на пануючага цяпер монарха ў „ахвярна-монархічнай“ Японіі.

У зьвязку з замахам—японскі ўрад Інукаі падаўся ў адстаўку.

## З Савецкае Беларусі.

### Гаспадарчае жыцьцё.

**Запраўды „прыкладова“ гаспадараць...** Саўгас „Самуэлева“, адна з буйнейшых гаспадарак у Койданаўскім раёне, свайго роду бальшавіцкая лятыфундыя, як падае „Зьвязда“ з 23 сьнежня м. г., правалiў здачу збожжа дзяржаве ў скандальны спосаб: з 1390 цэнтнараў, вызначаных плянам, здадзена толькі 269 цэнтнараў, або 19 прац.

**І тутка недахопы.** Пляя загатовак ільну і канаплі ў Б. С. С. Р. паводле артыкулу, зьмешчанага ў „Зьвязьдзе“ з 23 сьнежня м. г., які б'е на трывогу з гэтага поваду, — на 10 сьнежня выкананы адносна да ільну на 26,8 прац., а адносна пянькі—дык аж на 5 прац.

**А як там з трактарамі?** Як падае „Зьвязда“ з 19 сьнежня м. г., згодна з пастановай Нар. Камісарыяту Зямляробства Б. С. С. Р., Трактарацэнтр і Белсельбуд павінны былі пабудаваць да 1 сьнежня м. г. 8 машына-трактарных станцыяў на тэрыторыі Б. С. С. Р. З гэтае лічбы пабудаваны толькі 2, але і гэтыя станцыі ў выніку благога кіраўніцтва яшчэ не пачалі працаваць.

Ня лепш і з рамонтам трактараў і сельска-гаспадарчых машынаў: з існуючых 21 майстэрняў могуць працаваць толькі 10.

У сувязі з гэтым 1892 трактары, якія патрабуюць рамонту, стаяць і ржавеюць. Агулам паўстае пагроза, што 20—30 прац. трактараў у Б. С. С. Р. у часе веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі ня будуць выкарыстаны на палявых работах.

### Культурнае жыцьцё.

**Зьезд рэдактароў.** Як падае „Савецкая Беларусь“, 19 сьнежня м. г. адбылася ў Менску Усебеларуская нарада рэдактароў цэнтральных і раённых газэтаў, якія выходзяць на тэрыторыі Б. С. С. Р.

**Цэнтр марксыцка-ленінскай тэорыі...** „Савецкая Беларусь“ з 17 сьнежня м. г. у артыкуле „Навуку—на службу соцыялістычнаму будаўніцтву“ вельмі добра акрэсьлівае колішні і сучасны характар Бел. Акадэміі Навук у Менску — наступнымі словамі, якія нельга не падаць:

„...Бел. Акад. Навук была ў свой час апанована нац.-дэмократамі, якія імкнуліся зрабіць з Акадэміі навук цытадэль барацьбы з соц.-будаўніцтвам і нашай партыяй.

„Рашучая барацьба з нац.-дэмократызмам, ачыстка Акадэміі ад нац.-дэмократаў была крокам да ператварэньня Б.А.Н. у цэнтр марксыцка-ленінскай тэорыі“...

Вось што робяць „таварышы“ з беларускімі культурнымі пляцоўкамі. Комэнтарыі непатрэбны...

**Ліквідуюць няпісьменнасьць.** Паводле „Зьвязды“ і „Савецкай Беларусі“, на апошнім у мінулым 1931 г. паседжаньні Наркам. Асьветы сьцьверджаны значны прарыў у працы па ліквідацыі няпісьменнасьці. Гэтак званымі „ліквідацыйнымі пунктамі“ ахоплены толькі 61,4 прац. няпісьменных і 54 прац. малапісьменных.

**У 10-угодкі літэратурнай працы Александровіча**—якія абходзіліся 18 сьнежня м. г.—офіцыёзы Б. С. С. Р. „Зьвязда“ і „Савецкая Беларусь“ зьмясьцілі прывітаньні Александровічу, дзе не абыйшлося без цкаваньня нац.-дэмократаў.

У „Зьвязьдзе“ нейкі п. П. Бэнде ў артыкуле, прысьвечаным гэтым угодкам, выхваляючы Александровіча, піша, што ў яго творчасьці ўвесь час выразна праводзілася лінія компартыі, за што быццам нац.-дэмократы і нац-апартувісты, пачынаючы ад Бабарэкі і канчаючы на Жылуновічу, замоўчывалі творчасьць Александровіча і быццам нават стараліся яго скампрамітаваць.

Адным словам—пры кожнай аказыі цкуюць нац.-дэмократаў, узапраўднасьці—беларускіх адраджэнцаў...

## Агульны гадавы сход сяброў Белар. Навуковага Т-ва.

9 студня адбыўся гадавы агульны сход сяброў Б. Н. Т-ва пад старшынствам грам. Ул. Самойлы. За сэкрэтара быў запрошаны грам. А. Бартуль.

Агульную справаздачу зрабіў гр. А. Луцкевіч, як старшыня ўраду Т-ва і кіраўнік Музэю.

З тае праграмы, якая была намечана папярэднім агульным сходам, ня ўсе пункты ўдалося выпаўніць поўнасьцяй. Гэтак з праектаваных пэрыядычных зборак з навуковай праграмай адбылася толькі адна — пасьвячоная 500-м угодкам сьмерці В. Кн. Вітаўта, на якой прачытаны былі рэфэраты сябрамі ўраду гр. гр. д-рам Я. Станкевічам і д-рам М. Ільяшэвічам. Не ўдалося выпусьціць і праектаванага гадавіка —з прычын, ад ураду Т-ва незалежных. Лепш пайшла справа арганізацыі турыстычна-краязнаўчае сэкцыі пад кіраўніцтвам д-ра М. Ільяшэвіча. Сэкцыяй была з'арганізована цікаўная краязнаўчая выстаўка, складзеная з рысункаў (тыпы, вопраткі, будаўніцтва) і зарысовак тканін гр. Я. Драздовіча, абразоў гр. П. Сергіевіча ды цэлага раду фотографічных зьнімкаў з розных месц Беларусі. Выстаўку агледзіла багата народу. Пры учасьці сэкцыі была апрацована інструкцыя дзеля зьбіраньня беларускіх назоваў розных мясцовасьцяў, якія цяпер вельмі часта перарабляюцца на польскія, прычым заціраецца наагул беларускі характар краю. Горш пайшло з экскурсіямі. Праектаваны выезд у Латвію, каб пазнаёміцца з жыцьцём тамтэйшых беларусаў і зацікавіць іх краязнаўчай працай, ня мог адбыцца, бо староства адмовілася выдаць сябром экскурсіі льготныя пашпарты, якія лёгка атрымліваліся польскімі экскурсіямі. Гэта так зьнеахвоціла сяброў сэкцыі, што праца яе на нейкі час зусім замерла і толькі цяпер патроху ажывае. Намячаецца арганізацыя экскурсіяў па забытках Вільні і па найбліжэйшых ваколіцах Вільні. — Найбольш зроблена ў Музэі, дзе ўжо значная часьць стала выстаўленых экспонатаў мае добрыя сховы (7 зашклёных вітрын і 4 шкляныя шафы) і акуратна апісана ў інвэнтарнай кнізе. У Музэйнай бібліотэцы скаталёгована каля 3.000 друкаў. Музэй за мінулы год аглядала 18 экскурсіяў (каля 400 асоб), у тым ліку: Цэнтралі Жыдоўскіх Культурна-Асьветных Установаў у Вільні, слухачоў Інстытуту Дасьледаваньня Усходняе Эўропы, культурных працаўнікоў беларускіх хадэцкіх установ, вучняў і вучыцялёў вучыцельскае сэмінарыі ў Пшчыне (на Горным Сьлёнску), вучаніц польскае вучыцельскае сэмінарыі ў Вільні, сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу, дзьве экскурсіі сяброў Жыдоўскага Краязнаўчага Т-ва, вучняў і вучаніц вучыцельскае сэмінарыі ім. Францішка Багушэвіча, дзьве экскурсіі вучняў Праваслаўнае Духоўнае Сэмінарыі і сем экскурсіяў вучняў Віл. Бел. Гімназіі. Апрача таго Музэй адведалі каля 40 паадзіновіх асоб. З бібліятэкі карыстала ў значным ліку беларуская студэнская моладзь, шукаючы матэрыялаў дзеля навуковых прац. У архіве працаваў дэлегат Украінскага Нацыянальнага Музэю, шукаючы матэрыялаў да гісторыі уніі і жыцьця мітрапаліта Рутскага. — Музэй прыняў учасьце ў Славянскай Выстаўцы ў Рызе, паслаўшы туды рад цікаўных экспонатаў (разьба з дрэва, тканіны, зарысоўкі будаўніцтва), і ў Міцкевічаўскай Выстаўцы ў Навагрудку. У працы Музэю замінае нястача грошы, бо з дзяржаўнае дапамогі (350 зл. у месяц) большую частку прыходзіцца варочаць уладам назад, як аплату за памяшчэньне Музэю (215 зл. 62 гр.), а рэшты ледзь хапае на дробныя выдаткі, апал і ўтрыманьне памяшчэньня ў чыстасьці.

Пасьля справаздачы Рэвізыйнае Камісіі, якая знайшла, што ўсе выдаткі зроблены правільна і апраўданы адпаведнымі пастановамі Музэйнае Рады і квітамі, — Агульны Сход даў Ураду абсолюторыум. У дыскусіі былі адзначаны тыя заганы, якія выявіліся ў дзейнасьці Т-ва за мінулы час. Заганы гэтыя — у слабой актыўнасьці т-ва. Як зрабіць, каб праца Т-ва разьвівалася байчэй, — аб гэтым гутарылі пры разглядзе наступнага пункту парадку дня: аб пляне далейшае дзеяльнасьці. Быў пададзены рад праектаў—зусім рэальных і на часе, якія і павінен будзе прыняць за падставу свае далейшай працы Урад Т-ва.

